# Наша Свабода

№93(180) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

29 ЖНІЎНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Беларусь супрацьдзейнічае назіранню

Місія Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ на чале з дырэктарам гэтай арганізацыі Жэрарам Студманам скасавала запланаваны двухдзённы візіт у Беларусь з-за таго, што два з чатырох членаў місіі не атрымалі беларускія візы. Прадстаўнікі БДІПЧ заяўляюць, што беларускія ўлады не далі задавальняючага тлумачэння наконт прычынаў гэтай адмовы.

Імёны экспертаў, якім адмовілі ў візах, не называюцца, аднак, паводле неафіцыйнай інфармацыі, гэта былі Эндру Брус (Вялікабрытанія) і Браян Бонар (ЗША), якія наведвалі Беларусь у складзе тэхнічнай місіі АБСЕ на леташніх выбарах у палату прадстаўнікоў. Тады АБСЕ адмовілася прызнаць выбары свабоднымі і справядлівымі.

Прэс-сакратар міністэрства замежных справаў Павел Латушка паведаміў журналістам 23 жніўня, што сп. Брус і Бонар трапілі ў спіс асобаў, якім забаронены ўезд у Беларусь. Сп. Латушка не назваў прычыны, з якой сп. Брус і Бонар апынуліся ў «чорным спісе», але сказаў, што адмова ва ўездзе ў Беларусь не звязаная з іх дзейнасцю ў якасці экспертаў АБСЕ.

«Ніколі раней краіна-член АБСЕ так актыўна не супрацьдзейнічала назіранню за выбарамі з боку БДІПЧ», — заявіў у сувязі з апошнімі падзеямі сп. Студман. Ён нагадаў, што беларускія ўлады зацягвалі запрашэнне назіральнікаў БДІПЧ і не дазволілі ім назіраць за важнымі раннімі этапамі выбарчай кампаніі. У выніку БДІПЧ здолела арганізаваць толькі абмежаваную місію па назіранні за выбарамі. Цяпер у Беларусі працуюць 29 прадстаўнікоў БДІПЧ.

Прадстаўнікі БДІПЧ заяўляюць, што, нягледзячы на тое, што кантроль за ўездам — суверэннае права любой краіны, адмова ў візах з'яўляецца відавочным парушэннем незалежнасці місіі назіральнікаў, бо перашкаджае ёй паўнавартасна выконваць свае функцыі. «Гэта яшчэ адзін крок у тым, што зрабілася сістэматычнай перашкодай і ўмяшальніцтвам у назіранне, — сказаў сп. Студман. — Нягледзячы на гэтыя абмежаванні, наша каманда застаецца ў Мінску і працягвае намаганні ахапіць усе аспекты выбараў».

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

## Деструктивная акция

25 августа из Республики Беларусь был депортирован американский гражданин Роберт Филдинг, находящийся в стране по приглашению Свободного профсоюза Белорусского в качестве консультанта.

Деятельность Роберта Филдинга была направлена на консультирование членов СПБ по вопросам развития организации и участия членов СПБ в способствовании проведению демократических выборов Президента РБ.

Мы считаем, что депортирование Р.Филдинга является следствием психоза властей о якобы имеющемся вмешательстве во внутренние дела государства. Роберт Филдинг никогда не занимался агитацией «за» или «против» кого бы то ни было из кандидатов в Президенты. Информация, представленная в программе «Резонанс» о депортации Р.Филдинга, является ложью, дискредитирующей как Р.Филдинга, так и СПБ.

На фоне беспардонного вмешательства иных иностранных граждан (выступление Г.Жириновского в субботней программе господина Козиятко от 25.08.2001 г. с призывами голосовать за А.Лукашенко и оскорблениями тех, кто А.Лукашенко не поддерживает) жесткое поведение властей подтверждает антидемократический характер проведения избирательной кампании с их стороны.

СПБ протестует против депортации Р.Филдинга и рассматривает этот шаг как лицемерный и деструктивный, направленный на подавление демократических свобод.

**Пресс-служба Свободного профсоюза Белорусского**

# Полный текст сенсационного заявления сотрудников КГБ



*Видеокассету с очередным сенсационным признанием двух сотрудников КГБ получили сегодня все аккредитованные в Беларуси российские телеканалы, ряд белорусских независимых газет и радиостанций. На видеокассете видны два человека, один из которых представился сотрудником отдела по охране конституционного порядка и борьбе с терроризмом Минского управления КГБ Геннадием Угленцом. Второй не назвал должности, но представился Андреем Жерносеком. Эти люди подтверждают информацию, изложенную на прошедшей неделе сотрудником СОБРа, ставшего свидетелем убийства осенью 1999 года Виктора Гончара и Анатолия Красовского на территории воинской части под Бегомлем. Сотрудники КГБ не скрывают своих лиц и показывают фотографии причастных к убийству оппозиционных политиков людей, фамилии которых прозвучали в признании бойца СОБРа. Геннадий Угленица и Андрей Жерносек со всей ответственностью утверждают, что Виктор Гончар и Анатолий Красовский – убиты. Читайте полный текст сенсационного заявления.*

«Сегодня 25 августа 2001 года. Сейчас мы хотим сделать заявление для прессы, телевидения, граждан республики и для всех тех, кому оно попадет.

— Я, сотрудник отдела по защите конституционного строя и борьбе с терроризмом Минского управления КГБ Угленица Геннадий. Данный шаг продиктован рядом обстоятельств, в связи с которыми сложилась ситуация, когда лишь обнародование данных, которыми мы обладаем, может обеспечить безопасность нас и наших близких. Заявление касается пропажи в 1999 году двух людей – Гончара и Красовского.

В то время все газеты пестрели фотографиями пропавших, спецслужбы были подняты на ноги и вели поиск. Через несколько месяцев писк практически прекратился. Все удовлетворились тем, что люди пропали бесследно, и концов их найти нельзя. Так думали не все. Люди, которые считали своим долгом узнать правду о пропавших, продолжили работу по их поиску. Об этом лучше скажет Андрей.

*Окончание на стр.5*

## Обращение Госсекретаря США Пауэлла по случаю 10-й годовщины провозглашения независимости Республики Беларусь

Провозглашение Беларусью независимости от Советского Союза 25 августа 1991 года было воспринято американцами с надеждой и восхищением.

Мы были свидетелями того, как Беларусь быстро занимала свое законное место в Европе благодаря ратификации договора СНВ, присоединению к договору о нераспространении и выводе со своей территории всего советского ядерного оружия; благодаря активному участию в программе *NATO* «Партнерство ради мира», а также своей политике, которая содействовала устранению разделительных линий в Европе и превращению ее в сообщество демократических, истинно независимых стран.

В те первые годы после 1991-го мы были рады возможности поддержать белорусский народ в его нелегком труде по укреплению независимости, созданию демократической политической системы и обеспечению верховенства закона, возрождению его богатой культуры, осуществлению непростых рыночных реформ и формированию открытого общества. Наша поддержка Беларуси и ее людей в их движении вперед нашла отражение в контактах на высшем уровне между двумя странами, включая визит Президента Клинтона в январе 1994 года.

Материальная помощь в поддержке перехода Беларуси к демократии также была и остается значительной. С начала 1992 года Соединенные Штаты предоставили Беларуси помощь в рамках государственных программ и частных инициатив на сумму более 560 миллионов долларов, в том числе более 24 миллионов долларов в прошлом году. Таким образом, приверженность Соединенных Штатов благу белорусского народа и его стремлению к независимости и демократии остается решительной и неизменной. Мы будем приветствовать возможность продолжить развитие наших двусторонних отношений в том же направлении.

К сожалению, с 1996 года белорусский режим фактически прекратил переход к демократии и верховенству закона. Основы гражданского общества подверглись давлению со стороны режима.

*Окончание на стр.4*

## ЦВК пагражае Ганчарыку

Цэнтрвыбаркам выступіў з перасьцярогаю ў адрас выбарчага штабу адзінага кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Уладзімера Ганчарыка. 27 жніўня на паседжаньні ЦВК былі разгледжаныя матэр'ялы, якія сьведчаць пра парушэньні выбарчага заканадаўства з боку каманды Ганчарыка. У якасьці сьведчаньняў былі прадстаўленыя факты масавай бясплатнай раздачы выбаршчыкам незалежных газэтаў НАША СВАБОДА, «Рабочы», «Беларуская маладзёжная», «День». Раздачу незалежнай прэсы Цэнтрвыбаркам расцэньвае як подкуп выбаршчыкаў.

Цэнтрвыбаркам зьвярнуў увагу таксама на агітацыйныя ўлёткі кандыдата, якія ня маюць выходных дадзеных; распаўсюд улётак незарэгістраванага руху «За новую Беларусь», што ўтрымоўваюць заклік падтрымаць адзінага кандыдата. Пакуль члены ЦВК абмежаваліся рэкамэндацыямі штабу кандыдата «захоўваць выбарчае заканадаўства». Па словах главы Цэнтрвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай, гэтыя меры зьяўляюцца «прэвентыўнымі»: калі становішча ня выправіцца, ЦВК вынясе папярэджаньне. Паўторнае папярэджэньне, сказала Лідзія Ярмошына, можа стаць падставаю для адмены рэгістрацыі Уладзімера Ганчарыка кандыдатам у прэзыдэнты.

## Менчукі галасаваць датэрмінова не будуць

«Ці збіраецеся вы галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах датэрмінова ці непасрэдна ў дзень выбараў?» – такое пытанне задавала менчукам сацыялагічная служба «Зеркало» БелаПАН. 72% з апытаных выбарцаў адказалі, што будуць галасаваць акурат у дзень выбараў, толькі 6% — датэрмінова. Наогул 79% менчукоў збіраюцца прыйсці 9 верасня на выбарчыя ўчасткі, 13% — браць удзелу ў галасаванні не будуць. 8% апытаных жыхароў беларускай сталіцы яшчэ пакуль не вызначыліся з тым, ці пойдуць 9 верасня на выбары.

## Машына чыноўніка збіла дзяўчо

Як паведаміла Радыё «Рацыя», машына «Вольва 360» з дзяржаўным нумарам 0106 МІ, якая, верагодней за ўсё, належыць Адміністрацыі прэзідэнта, збіла ў Мінску ў панядзелак 8-гадовую дзяўчынку. Пацярпелая шпіталізаваная з пераломам пазванку і правай рукі. Відавочцы гэтага здарэння паведамілі, што «Вольва» не спынілася на пешаходным пераходзе паміж 3-м і 5-м дамамі на вуліцы Пуліхава. Дзяжурны гарадскога ДАІ пацвердзіў факт дарожна-транспартнага здарэння, але адмовіўся назваць прозвішча чалавека, які сядзеў за рулём.

## Моладзь за прафесійную армію

У мінулыя выхадныя інфармацыйная служба Маладога Фронту правяла апытанне 2.200 маладых людзей наконт таго, як яны ацэньваюць цяперашні стан беларускай арміі. Аказалася, што 70% рэспандэнтаў незадаволеныя армейскімі справамі, 16% — задаволеныя, 14% — не змаглі адказаць на пастаўленае пытанне. 84% апытанай моладзі нашай краіны выказаліся за скасаванне абавязковай вайсковай службы і за стварэнне прафесійнага беларускага войска, а 60% сказалі, што не падтрымліваюць правядзенне манеўраў «Нёман-2001».

## Ракета не наша

Міністэрства абароны Беларусі заявіла, што ракета, выпушчаная падчас вучэнняў сілаў супрацьпаветранай абароны краінаў СНД у Астраханскай вобласці Расіі і ўпаўшая на тэрыторыю Казахстана, не беларуская. Камандуючы войскаў супрацьпаветранай абароны Валерый Кастэнка паведаміў, што 15-ая ракетная брыгада Беларусі, якая брала ўдзел у гэтых вучэннях, не мае дачынення да запуску той ракеты.

## НАДВОР'Е

Віцебск +14 +18
Мінск +14 +18
Магілёў +13 +17
Гродна +17 +21
Брэст +16 +20
Гомель +10 +14

Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1465**

